

# Ніва



ГОД I № 12 БЕЛАСТОК, 20 МАЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.

## СВЯТА друкаванага слова

Прыгожыя, цёплыя, майскія дні. „Сапраўдная вясна" — кажуць людзі.

Вясна! Вясна на двары, вясна ў сэрцы чалавека. Гэта першая вясна, першы май, калі „Ніва" будзе ўдзельнічаць у сваім свяце — свяце друкаванага слова.

Так, свята друкаванага слова — таксама свята беларускай „Нівы", беларускай кніжкі ў Польшчы, беларускай школы.

На нашых вачах ажыццяўляюцца мары Георгія Скарыны — вялікага беларускага дзеяча XVI стагоддзя, першага друкара на Беларусі. Ён гаварыў: „Кніжка і асвета патрэбны для ўсяго грамадства".

І Георгій Скарына праз усё сваё жыццё змагаўся за асвету для народа, за кніжку для простага чалавека.

Ды й не толькі Скарына; шмат яго паслядоўнікаў паступалі гэтак-жа.

І вось прышоў час, калі друкаванае слова стала даступным кожнаму. Улада працоўных праклала яму дарогу пад кожную вясковую страху.

Кніжка і, наогул друкаванае слова ў кожнай постаці, з'яўляецца ў нас неабходнасцю. Гэта наш дарадчык, выхавацель. Кніжка, газета — чытаецца ў найбольш адлеглай вёсцы.

Аднак-жа трэба прыкмеціць, што не заўсёды яшчэ справа асветы і культурнага жыцця пастаўлена як трэба, не ўсе яшчэ любяць чытаць, не ва ўсіх яшчэ вёсках належна праводзіцца культурная праца, не ўсе яшчэ належна разумеюць значэнне асветы, кніжкі і прэсы ў нашым жыцці.

Гэтыя вось недахопы неабходна таксама паставіць на парадку дня ў Дні „Асветы Кніжкі і Прэсы" і далажыць намаганняў з мэтай ліквідацыі іх.

Дні „Асветы Кніжкі і Прэсы", якія адбудуцца з 19 мая да 3 чэрвеня г. г., сваёй галоўнай задачай ставяць шырэйшае распрапагаванне друкаванага слова ў выглядзе кніжкі, газеты і часопіса.

А задачай кожнага беларуса ў гэтыя дні — гэта шырэйшае распрапагаванне сярод агулу насельніцтва свайго часопіса — „Нівы". Перш за ўсё, кожны беларус сам павінен быць падпісчыкам „Нівы".

Кожны беларус павінен у Дні „Асветы, Кніжкі і Прэсы" навязаць жывейшую, непарыўную сувязь з рэдакцыяй „Нівы", прыняць актыўны ўдзел у Днях „Асветы, Кніжкі і Прэсы". В. Л.



*Сярод беларускага насельніцтва штораз больш робіцца папулярнай кніжка на роднай мове. На здымку: Пункт продажы беларускай кніжкі на I З'ездзе БГ-КТ у Беластоку.* Фота — Леў

## Бліжэй да спраў моладзі

У сучасны момант вельмі многа гаворыцца аб выхаванні моладзі. Справа важная, гэтаму не мажна супярэчыць, але і не сённешняя.

На працягу 11 год існавання народнай улады адбылося шмат спрэчак на гэтую тэму, многа выпісалася чарніла, запісалася паперы. Сітуацыя, аднака-ж нямнога змянілася на лепшае. У далейшым моладзь не ведае як працаваць, як пакіраваць сваёй працай.

У чым прычына?

Мне часта здаралася гутарыць са старымі членамі арганізацыі, яшчэ з перад Аб'еднання. Ва ўсіх прабівалася думка, што ЗМП-оўская арганізацыя ступіла сваю вастрату, што сёння няма ў моладзі толькі энергіі, толькі самаахвярнасці, так як у тых гадах, калі трэба было з аўтаматам у руках змагацца з ворагамі. А чаму — гавораць — сходы былі тады зусім другія, не трэба было нікога сілай клікаць, як гэта часта здараецца цяпер, прыходзілі самі. Было нас мала, а якую-ж работу мы рабілі. Лічыліся з намі.

Аб адным гэтыя таварышы забылі. А менавіта аб тым, што мінула з таго часу 8—9 год, і што на працягу гэтага часу выраслі новыя праблемы, новыя зацікаўленні ,новыя патрэбы. Змянілася моладзь. Моладзь вырасла ўжо ў новых умовах. Вырасла моладзь поўная радасці, вясельля, прагная веды аб акружаючым яе свеце. Сёння моладзь лепш чым калі-небудзь бачыць з'явы грамадскага жыцця, хоча іх ляпей пазнаць, змагацца з усім дрэнным, з усім, што перашкаджае ў нашым маршы да соцыялізма.

Праўленні ЗМП не ведаюць да канца патрэб моладзі, не стараюцца гаварыць з моладдзю аб іх. Хтосьці ізноў можа сказаць, што гэта няпраўда. А возьмем хаця-б адну праблему да прыкладу. Справа культурнага жыцця моладзі ў вёсках.

На вялікай колькасці сходаў моладзь безупынна дамагаецца будовы клубаў. Вось тады, — гавораць — у нас жыццё пацячэ новым шляхам. Будзе дзе сабрацца, пагутарыць, патанцаваць, паспяваць...

Пярвічныя арганізацыі дамагаюцца ў Павятовым праўленні.

Рраўленне са свайго боку ў Павятовай Радзе, у Камітэце партыі. У многіх выпадках будуюцца клубы, даюцца на іх памяшканні. (Зразумела, калі ёсць грашовыя ці іншыя ўмовы да іх здзяйснення). Але так ёсць. І тады ў праўленні пачынаючы ад павятовага, а канчаючы на Галоўным у спраавздачах гавораць — Памаглі... толькі, а толькі то клубаў... гэта ўсё мы.

З аднаго боку праўда. Але ў тым часе, калі часам цэлымі месяцамі вялося спрэчкі ў павеце, ці ў ваяводстве, моладзь чакала, ніхто да яе не прыехаў. Ужо так ёсць у нашых праўленнях, што таварышы зусім не паказваюцца да тых арганізацый, дзе паабяцаюць, а не памогуць. КАЛІ ПАМОГУЦЬ, ТАДЫ ЕДУЦЬ. А КАЛІ НЕ, ТО ЧАСАМ З ГОД ТРЭБА ЧАКАЦЬ НА ІНСТРУКТАРА З ПАВЕТА.

— Трэба-ж дбаць аб свой аўтарытэт, мы-ж усё зробім... і робяць седзячы ля тэлефона.

ТРЭБА БОЛЬШ ШЧЫРАСЦІ. Не атрымліваецца, дык смела аб гэтым гаварыць моладзі. Моладзь не будзе мець прэтэнзіі. Яна добра разумее цяжкасці. А што дамагаецца, на гэта мае права. Гаварыў я аб „дасягненнях", якімі цешацца часта нашыя Праўленні ЗМП. Але вось і другая „мерка" дасягненняў. Колькасць прынятых новых членаў у арганізацыю.

Вызначаюцца планы ўзросту арганізацыі. І ўсе толькі аб гэтым думаюць. І няма нічога дзіўнага, што першым пытаннем, як закон, заўсёды з'яўляецца „колькі прынялі членаў". І такім чынам палітработнікіператвараюцца ў „вярбоўшчыкаў".

Арганізацыя можа і будзе расці хутчэй, але не такім спосабам. Трэба выйсці з канкрэтнай масава - палітычнай працай.

Каб гэта правясці, трэба быць сярод моладзі і ўсімі спосабамі ёй дапамагчы, ствараць усе ўмовы да яе ўсебаковага развіцця. Тады аўтарытэт арганізацыі будзе напэўна расці.

Другая справа, якую хацеўбы крануць, гэта тое, аб чым гаварылася да II З'езда ЗМП на шматлікіх канферэнцыях, нарадах, сходах. Вывады былі слушныя. Справа выхавання моладзі — справай цэлай грамадскасці.

А што паказвае практыка? Прашумела хваля, расплёскалася аб горы праблемаў, якія напаткаліся ў практыцы штодзённага жыцця і нічога з яе не засталося.

Датычыць гэта перадусім прафсаюзных арганізацый, кіраўніцтваў, прадпрыемстваў, Рад Нарадовых, усіх тых хто жыве і працуе, сутыкаецца з моладдзю. Справа тут не ў тым, каб што пэўны час пагутарыць на пленуме, ці канферэнцыі аб праблемах жыцця моладзі, зрабіць слушныя вывады... нажаль, аднак так у рэчаіснасці ёсць — забыцца аб іх, не ажыццяўляць.

Штодня, пачынаючы з прафсаюзнага актыву ў прадпрыемствах з радных — Грамадскіх Рад, партыйнага актыву, а канчаючы на найвышэйшых інстанцыях і праўленнях, трэба дапамагаць у працы ЗМП-оўскім арганізацыям, услухоўвацца ў голас моладзі, развязваць практычныя і тэарэтычныя праблемы з якімі яна сустракаецца.

На вынікі не трэба будзе доўга чакаць.

М. МАТЭЙЧУК

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



...Будаваць то самі будуюць, а раскідаюць не людзі, а іхняя нядоля горкая раскідае...



...Спачатку гукі былі рэдкія нясмелыя, потым пачалі гусцець, перасыпаліся срэбрам, журчэлі непрытомна, горача, ажно к оў зайграла...



...Не можа быць, каб вы, Аляксандр Пятровіч, такую бязглуздзіну напісалі...



...Петр ехал, стоя в марсовой золоченой колеснице, за ним волочили по земле шведские знамена, шли пленные опустив голову...



...Они видели, как маленькая фигурка матроса прыгнула в лодку. Парус надулся. Его стало относить от берега как лепесток. Теперь на мостках стояли только Терентий и Гаврик.



...Мае браты, мае суседзі
Свабодны новы, польскі люд!
Няхай-жа песняй звонкай медзі
Красуе наша дружба тут...




...У чацвёрты год вайны мы не толькі не паслабелі, а сталі ў многа разоў мацней. І армія стала мацней і народ як-бы памацнеў, узмужнеў...

# Вялікі літаратурна-фільмавы конкурс „Нівы"

Рэдакцыя „Нівы", Гал. Праўл. БГ-КТ, ОЗК і ЗВ ТПП-Р абʼяўляюць Вялікі літаратурна - фільмавы конкурс.

Пад кожным рысункам, які абазначае загаловак адгадыванага твору змешчаны ўрывак з гэтага-ж твору.

Паслугоўваючыся ніжэй змешчанымі тэкстамі і рысункамі адганіце загалоўкі твораў і ўпішыце іх у адпаведныя клеткі адносных аўтараў.

Паміж чытачоў „Нівы", якія да 5 чэрвеня г. г. прышлюць правільныя развязкі, 10 чэрвеня публічна разыграюцца ў латарэю каштоўныя ўзнагароды як: веласіпед, 2 радыёпрыёмнікі, а таксама шматлікія кніжныя ўзнагароды.

УВАГА!
РАЗВЯЗКІ ДАСЫЛАЙЦЕ ТОЛЬКІ НА КУПОНАХ ДРУКАВАНЫХ У „НІВЕ" НА АДРАС: Рэдакцыя „Нівы" Беласток, вул. Кілінскага 7/1 (літаратурна - фільмавы конкурс).

Імя ............
Прозвішча ............
Адрас ............
Пошта ............

ЛАТАРЭЙНЫ КУПОН РЭДАКЦЫІ „НІВА"
ДНІ АСВЕТЫ КНІЖКІ І ПРЭСЫ

| П. л. | Аўтар | Загаловак твора |
|---|---|---|
| 1. | Я. Колас | ................ |
| 2. | Я. Купала | ................ |
| 3. | К. Крапіва | ................ |
| 4. | З. Бядуля | ................ |
| 5. | Д. Фурманов | ................ |
| 6. | В. Катаев | ................ |
| 7. | А. Куляшоў | ................ |
| 8. | А. Фадеев | ................ |
| 9. | А. Толстой | ................ |
| 10. | І. Мележ | ................ |

Увага: Творы экранізаваныя трэба падкрэсліць!



...Люба Шевцова не дожила неделю до того, как Красная Армия вошла в Краснодон и в Ворошиловград.



Краіна, ты чуеш мой заклік, мой голас
Поўны, як спелыя сонцы суніц...



...Федор ничего Потапову не ответил, дал вдруг шпоры коню и помчался в тыл проч от цепей...

# А Ў ПОЛІ ВЯРБА

Для хора з ф-но

Апрацоўка В. Ефімава

А ў полі вярба, пад вярбой вада.
Там хадзіла, там гуляла дзеўка малада. (2 разы)
Дзеўка ад вады, хлапец да вады:
— Пастой, пастой, дзяўчыначка, дай каню вады. (2 разы)
— Рада-б пастаяць, каню вады даць:
Мае босенькія ножкі, студзёна стаяць. (2 разы).

## ДНІ КНІГІ

Дзень быў не толькі нядзельны але цёплы. Сядзеў я ля хаты на лавачцы, грэўся як кот на сонцы; думкі так лянiва плылі, як хмарка па небе, а тут прыходзіць жонка ды кажа: — „Ідзі ў „Дэлікатэсы" і купі віно; увечары кум з кумою прыдуць, чаем ад іх не адкараскаешся", — і падае мне пры гэтым 100 зл.

Шкада мне было з гультайствам раставацца, не маглі кум з кумою, ліха на іх няма, — учора прыйсці? Але нічога не зробіш, сабраўся я, іду па вуліцы Сталіна, бачу ўсюды столікі з кніжкамі стаяць, а ля іх народ таўчэцца.

Кніжкі на сталах ляжаць цудоўныя, пераплёты адзін лепшы за другі, на вокладках нешта каляровае намалявана проста — прыемна пагля дзець.

Пытаю па сакрэту аднаго грамадзяніна, чаму гэта кніжкі павыносілі на вуліцу. А ён мне растлумачвае, што цяпер дні асветы, кніжкі і прэсы ды пытае, што я на сваім вяку чытаў.

Адказваю, што чытаў „Жыціе святога Нікодыма", потым „Сонька залатая ручка" і яшчэ „Сто цудаў чорнай магіі".

Грамадзянін паглядзеў на мяне нейк дзіўна і кажа:

— Дзярмо вы чыталі, а сапраўднай кніжкі і ў вочы не бачылі. Цёмны з вас чалавек, як туман вячэрні.

Пакрыўдзіўся я, адыходжу і праціскаюся бліжэй да століка прыглядзецца, як гэта сапраўдныя кніжкі выглядзяць; а тут людзі за залатоўку нейкія білецікі выцягваюць. Грамадзянін, што стаяў непадалёк мяне, на адзін нумар за 10 зл. кніжку выйграў. Аказваецца, на гэтай латарэі можна выйграць не толькі бібліятэку, але нават і матацыкл або радыёлу.

Набраў я на 5 зл. білетаў ды і нічога не выйграў. Такая мяне злосць узяла; іншыя выйгрываюць, а я... зноў на 10 зл. нацягнуў. Выйграў кніжак на 15 зл. і пачаў зноў цягнуць. І пайшла тут такая стаханаўская работа, што прадавец ледзь паспяваў мне кніжкі адкладаць. Праз 10 мінут за 100 зл. я атрымаў кніжак на 180 зл! Шкада, што больш грошай не меў.

Прынёс я дамоў кніжкі ды падаю жонцы „Даведнік вясковай гаспадыні", а яна крычыць: — „Дзе віно? Кумы прыдуць". Я крычу, што кума з кумою і, без віна чэрці не возьмуць, а жонка сваё выкрыквае. А я зноў крычу: „што, табе лысы кум і падхварбаваная, шчарбатая кума даражэй кніжак? Сапраўднай кніжкі ты ў вочы не бачыла, цёмны ты чалавек, як туман вячэрні". А жонка за мятлу хапае.

Што потым было — гэта не важна. Гасцей у той дзень я не бачыў, а потым ад суседзей даведаўся, што падчас нашай культурнай рэволюцыі кум і кума стаялі пад акном і ўсё чулі.

Дзядзька Лявон

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ Адрас рэдакцыі: гор Беласток, вул Кілінскага7/1, Тэлефоны: Гал. рэдактар і сакратарыят 25 89, аддзелы рэдакцыі 36 43 Умовы падпіскі: на 6 месяцаў — 15 зл 60 гр, на 3 месяцы — 7 зл 80 гр. Падпіску прымаюць паштовыя ўстановы і пісьманосцы. Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161 w Białymstoku.
Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку Т-7-1690